# Наша ПРАВА

Інфармацыйны бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"

№ 1 лістапад 1999

адрэса для допісаў: а/с 90 Наваполацак-7 211440 тэл.\факс (8-02144) 5-41-30 e-mail: andy@nvp.belpak.vitebsk.by


Ад рэдакцыі

## ПРЫВІТАНЬНЕ

шаноўныя чытачы бюлетэню "Наша права"!

Ад гэтага часу Праваабарончы Цэнтар "Вясна" распачынае ўласнае выданьне, назва якога, бясспрэчна, ёсьць вельмі актуальнай у нашай краіне. Як, дарэчы, і існаваньне самога Цэнтру. Справа ў тым, што становішча з правамі чалавека й іхняй абаронай на Беларусі пакідае жадаць лепшага. Сёньняшнія ўлады, насуперак шматлікім палымяным заявам, што робяцца на ўсіх узроўнях, нярэдка ігнаруюць міжнародныя дамоўленасьці аб правох чалавека. У той самы час, узровень юрыдычных ведаў самога насельніцтва нашай краіны знаходзіцца амаль на нулявым узроўні.

Мэта нашага выданьня - давесьці сваім чытачам простую ісьціну, што зьяўляецца аксіёмай у любой прававой дзяржаве: кожны чалавек мае правы, якія ня могуць быць парушаныя нікім і ні пры якіх умовах. На старонках бюлетэню Вы здолееце знайсьці юрыдычныя парады, навіны аб дзейнасьці праваабарончых арганізацыяў і шмат іншай інфармацыі, якая, спадзяемся, стане для Вас цікавай і карыснай.

Аўтарам нашага бюлетэню можа стаць кожны з Вас. Мы чакаем Вашых артыкулаў, сьведчаньняў і пытаньняў, што тычацца праблемаў абароны правоў чалавека на Беларусі.

Гэта - НАША ПРАВА!

## У НУМАРЫ



## СЭМІНАРЫ ДЛЯ НАВАПОЛАЦКІХ ШКОЛЬНІКАЎ

Правы чалавека... Сёньня гэтае словазлучэньне на слыху ў кожнага. Аднак далёка ня ўсе могуць да канца зразумець сэнс гэтага панятку й - галоўнае - скарыстаць яго на практыцы. У той самы час, веданьне сваіх правоў і здольнасьць іх абараніць складаюць ці не галоўную ўмову паўнавартаснага існаваньня чалавека ў грамадзтве.

Сёньняшнія падлеткі - гэта грамадзяне XXI стагодьдзя, людзі, ад якіх залежыць, у якой краіне мы будзем жыць. Падвысіць узровень прававое самасьвядомасьці старшаклясьнікаў - гэткім чынам вызначаецца мэта праекту, ажыцяўленьне якога распачаў Праваабарончы Цэнтар "Вясна" ў Наваполацку.

працяг - на старонках 2-3 ⇒



20 лістапада. Наваполацак, СШ№3. Удзельнікі сэмінару падчас працы

## САЮЗ БЕЛАРУСІ Й РАСЕІ: BACK IN THE USSR?

**26 лістапада ў Маскве мелася быць падпісанай Дамова аб стварэньні саюзу Беларусі й Расеі. Раптоўная хвароба прэзыдэнта Ельцына сарвала пляны "інтэграстаў". Кажуць - толькі да першай дэкады сьнежня, што ёсьць новай датай падпісаньня лёсавырашальнага дакументу.**

Упершыню на Беларусі праект дамовы быў апублікаваны 8 кастрычніка ў газэце "Советская Белоруссия". З гэтага часу пачалося яго "ўсенароднае абмеркаваньне". Прычым яно было абмежаванае па часу: да 1 лістапада народ павінен быў выказаць свае меркаваньні наконт праекту. Зараз даволі цяжка сказаць, навошта ўвогуле быў прыдуманы фарс з "усенародным абмеркаваньнем". Рашэньне падпісаць дамову Лукашэнка прыняў самастойна, фактычна не ўзгадніўшы гэты крок з насельніцтвам краіны.

Вядома, прадстаўнікі ўладаў адрапартавалі, што "абмеркаваньне" праведзена й "электарат" праект дамовы падтрымаў. Але на самой справе гэтае "абмеркаваньне" было даволі ўмоўным. Паколькі народ наш ня надта прызвычаены тлуміць сабе галаву чытаньнем мудрагелістых юрыдычных дакументаў, людзей, якія-б асабіста азнаёміліся з дакументам, было даволі няшмат. Большасьць складалі тыя, што даведаліся аб ім на своеасаблівых "паліт-інфармацыях", якія праводзіліся практычна ў кожнай установе й на кожным прадпрыемстве.

працяг на старонцы 6 ⇒

## На Беларусі працягваецца рост злачыннасьці

86 400 - менавіта столькі злачынстваў было зафіксавана ў нашай краіне ў пэрыяд са студзеня па жнівень гэтага году. Гэтая лічба на 8.2% перавышае аналагічны мінулагодні паказчык. Асаблівую трывогу выклікае павелічэньне колькасьці выпадкаў махлярства (на 31,2%), кражаў (амаль на 16%) і грабяжоў (больш, чым на 9%). Адзначаны рост злачынстваў, якія зьдзейсьнілі непаўнагадовыя (на 4,2%), а таксама рэцэдываў (на 5%). Узровень раскрываемасьці злачынстваў застаецца ранейшым - крыху болей за 70%.

## На Віцебшчыне павялічваецца ўзровень злачыннасьці сярод непаўнагадовых

Па дадзеных Віцебскага абласнога ўпраўленьня ўнутраных справаў за першыя 8 месяцаў гэтага году на Віцебшчыне зарэгістравана 906 злачынстваў, якія зьдзейсьнілі непаўнагадовыя. Гэтая лічба перавышае мінулагодні паказчык на 6%. У "паслужным сьпісе" малагадовых злачынцаў вобласьці 5 забойстваў, 7 цяжкіх цялесных пашкоджаньняў, 6 згвалтаваньняў, 56 грабяжоў, 106 затрыманьняў за дробнае хуліганства. Па словах супрацоўнікаў міліцыі й педагогаў-псіхолягаў, на павышэньне ўзроўню злачыннасьці ў дзіцячым і юнацкім асяродку ўплываюць выпадкі канфліктных сітуацыяў у сем'ях, што сталі даволі частымі. 277 непаўнагадовых, якія самавольна сыйшлі з дому, было дастаўлена ў Віцебскі прыёмнік-разьмеркавальнік, прычым большую іх частку - 65% - складаюць дзеці да 14 год. 36 дзетак ва ўзросьце да 7 гадоў зьбеглі зь сям'і. Асаблівую трывогу выклікае рэзкае павелічэньне выпадкаў суіцыду сярод падлеткаў. За гэты год адзначана ўжо 9 самазабойстваў непаўнагадовых.

Наша ПРАВА
Інфармацыйны бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"
№1
лістапад-1999
Рэдактар: Андрэй Аляксандраў
Наклад: 299 асобнікаў
Распаўсюджваецца бясплатна на правох рукапісу.
Бюлетэнь зьвярстаны й выдадзены на абсталяваньні Праваабарончага Цэнтру "Вясна"
Кантактаваць з рэдакцыяй магчыма:
па тэлефоне альбо факсе (8-02144) 5-41-30
па адрэсе а\с 90, Наваполацак-7, 211440
па электроннай пошце andy@nvp.belpak.vitebsk.by

*Адным з найвайстрэйшых пытаньняў сучаснага грамадзтва зьяўляецца абарона правоў чалавека. На вялікі жаль, у сёньняшняй Беларусі гэта праблема ўсё больш трывала высоўваецца на першы плян. Нягледзячы на палымяныя заявы аб выкананьні правоў чалавека, якія робяцца на ўсіх узроўнях, у тым ліку й найвышэйшых, кожны дзень дадае працы праваабарончым арганізацыям, што дзейнічаюць у нашай краіне.*

# ВЫ МАЕЦЕ ПРАВА...

### Што такое Праваабарончы Цэнтар "Вясна"?



Адной з найбольш вядомых сярод гэтых арганізацыяў зьяўляецца Праваабарончы Цэнтар "Вясна". Грамадзкае аб'яднаньне з падобнай назвай - "Вясна-96" - было створана ў красавіку 1996 году (адсюль і назва арганізацыі) падчас сумна вядомых падзеяў на вуліцах Менску, калі шмат удзельнікаў масавых акцыяў пратэсту супраць палітыкі беларускага кіраўніцтва пацярпела ад праізволу ўладаў, не маючы кваліфікаванае юрыдычнае дапамогі. Сёлета была афіцыйна зарэгістравана новая рэспубліканская арганізацыя - Праваабарончы Цэнтар "Вясна". Дзейнасьць яе далёкая ад палітычнай: асноўныя намаганьні Цэнтру накіраваныя на канкрэтную прававую абарону грамадзянаў і арганізацыю прававой адукацыі насельніцтва Беларусі. Адна з найбольш громкіх справаў, якія разглядалі актывісты "Вясны", былі крывавыя падзеі на Нямізе ў траўні гэтага года. Праваабаронцы дапамагалі тады юрыдычнымі парадамі бацькам юнакоў, што загінулі ў жудасным натоўпе на станцыі мэтро. Праўда, людзі, вінаватыя ў сьмерці 52 маладых людзей, дагэтуль не панесьлі пакараньня: іх абаранілі высокія крэслы ды гучныя пасады...

### Праваабаронцы ў Наваполацку

Зь нядаўняга часу прадстаўнікі Праваабарончага Цэнтру "Вясна" распачалі сваю дзейнасьць і ў Наваполацку. Зараз сваю працу распачала "грамадзкая прыёмная", куды па юрыдычныя кансультацыі зьвяртаюцца жыхары нашага гораду й усяго рэгіёну. За невялікі тэрмін разгледжана каля 100 зваротаў ад грамадзянаў, якія палічылі свае правы парушанымі. Кожнаму зь іх была прадастаўлена кваліфікаваная, аператыўная і - што вельмі значна ў наш час - бясплатная дапамога. Большасьць заяваў, што паступаюць у Праваабарончы Цэнтар "Вясна", тычыцца працоўных пытаньняў. Людзі спрабуюць вызначыць, ці законна іх звольнілі з працы, ці дакладна ім налічаюць пенсіі, ці справядлівыя патрабаваньні выстаўляюць да іх службовыя асобы. Нярэдка зьвяртаюцца ў "грамадзкую прыёмную" й студэнты Полацкага дзяржаўнага унівэрсытэту. У большасьці выпадкаў яны скардзяцца на незаконнасьць выключэньня з ПДУ ці, напрыклад, патрабаваньняў кіраўніцтва студэнцкіх інтэрнатаў. Прафэсійныя юрысты дапамагаюць дакладна скласьці скаргу ці заяву ў пэўную арганізацыю ці ўстанову. Прычым у большасці выпадкаў, дзякуючы працы спэцыялістаў "Вясны", праблемы вырашаюцца станоўча. У якасьці прыклада можна прывесьці выпадак, які здарыўся ў мікрараёне Баравуха-1. Ад групы жыхароў былога вайсковага гарадка паступіла скарга на загадчыка вучэбнае часткі мясцовае школы-гімназіі, які дазваляў сабе некарэктныя, нават жорсткія паводзіны ў дачы-



# СЭМІНАРЫ ДЛЯ НАВАПОЛАЦКІХ ШКОЛЬНІКАЎ

⇒ працяг са старонкі 1

Першым этапам праекту стаў сэмінар для трэнэраў, які адбыўся 23-24 кастрычніка. За гэтыя два дні маладыя людзі з Наваполацку, Менску, Гародні, Бярэсьця, Гомлі, якіх чакала праца ў школках, вызначалі агульныя палажэньні будучых сэмінараў, стратэгію іхняга правядзеньня й мэтодыкі, з дапамогай якіх найпрасьцей давесьці пэўную інфармацыю да падлеткаў. Сябры Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Валеры Юрэвіч і Валянцін Стэфановіч правялі з трэнерамі шэраг тэарэтычных заняткаў, на якіх разглядаўся сам панятак правоў чалавека й асаблівасьці беларускага заканадаўства. Адным словам, навучаліся тыя, хто меўся сам потым навучаць іншых, стваралася база для зьдзяйсьненьня наступнага кроку праекту: шэрагу сэмінараў па школках гораду Наваполацку.


20 лістапада. СШ №3. Праца ў групах

Дарэчы, прынцып сэмінараў для школьнікаў быў гэткім-жа самым. На падставе тэставаньня вучняў 9-11 клясаў пэўнай школы, якія выказалі жаданьне прыняць удзел у сэмінары, вызначаліся людзі, што патэнцыйна здольныя адукоўваць сваіх аднагодкаў, г. зн. сапраўдныя лідары. Зь іх ліку адбіраліся ўдзельнікі сэмінараў.

# ВЫ МАЕЦЕ ПРАВА...

Працяг са старонкі 2

неньні вучняў. У выніку працы наваполацкіх прадстаўнікоў Праваабарончага Цэнтру горапедагог быў звольнены з працы.

### Выканкам

Падкрэсьлім яшчэ раз: Праваабарончы Цэнтар "Вясна" не зьяўляецца палітычнай арганізацыяй. У сваёй дзейнасьці "Вясна" кіруецца толькі адным прынцыпам: кожны чалавек мае правы, якія мусяць быць абароненымі ў выпадку іх парушэньня. Нягледзячы на гэткую высакародную мэту, праца Цэнтру не заўсёды знаходзіць адэкватную рэакцыю, у тым ліку і з боку уладаў.

Нядаўна адзін з прадстаўнікоў "Вясны" ў Наваполацку, Зьміцер Салаўёў, быў выкліканы на размову намесьнікам старшыні гарвыканкама Сьвятланай Туранок. Яна запатрабавала рэгістрацыі ў мясцовых органах улады філіі Праваабарончага Цэнтру. Зьміцер Салаўёў паспрабаваў растлумачыць, што "Вясна" зьяўляецца рэспубліканскай арганізацыяй, стварэнне гарадзкіх філіяў якой не прадугледжана статутам (зацьверджаным, дарэчы, у Міністэрстве юстыцыі).

Зразумела, ніякай філіі ў Наваполацку й не ўтваралася: арганізацыя цалкам можа плённа дзейнічаць і без раздзьмутай рэгіянальнай структуры. У нашым горадзе проста дзейнічаюць прадстаўнікі цэласнай агульнарэспубліканскай арганізацыі. Нягледзячы на гэты неаспрэчны факт, прадстаўніца мясцовых уладаў дала сябрам праваабарончай арганізацыі 3 дні на тое, каб зарэгістраваць наваполацкае аддзяленьне "Вясны" (якога проста не існуе ў прыродзе!). У адваротным выпадку яна пагразілася падаць адпаведную заяву на імя пракурора.

Трэба заўважыць, што сябры Праваабарончага Цэнтру ня сталі чакаць, пакуль мясцовая "вертыкаль" спраўдзяць сваю пагрозу, і самі склалі скаргу ў пракуратуру на незаконныя дзеяньні гарадзкіх уладаў. Адказ пракурора гораду Аляксандра Яцука асаблівых каментараў не патрабуе: "...Патрабаваньне службовай асобы Наваполацкага гарвыканкаму аб пастаноўцы на ўлік неіснуючага аддзяленьня грамадзкага аб'яднаньня "Праваабарончы Цэнтар "Вясна" **супярэчыць дзеючаму заканадаўству і зьяўляецца неправамоцным**".

### Замест эпілёга



Шкада ўсьведамляць, што дзейнасьць па абароне правоў чалавека не сустракае ў сёньняшняй Беларусі адпаведнага водгуку ў кабінетах рознага маштабу. Але наваполацкія праваабаронцы вераць, што працуюць недарэмна. Кожны чалавек можа сутыкнуцца з несправядлівасьцю, незаконнымі дзеяньнямі ў свой бок, накіраванымі на скасаваньне яговых працоўных, жыльлёвых ці іншых правоў. Калі гэткія факты мелі мейсца - спэцыялісты Праваабарончага Цэнтру "Вясна" заўсёды гатовыя дапамагчы Вам. Дастаткова проста ўзяць тэлефон і набраць нумар **5-41-30**.

Вы маеце права...

---

Першая гэткая імпрэза адбылася 20 лістапада ў сярэдняй школе №3 г.Наваполацку. Праз тыдзень тамсама прайшоў другі сэмінар. Замест нудных лекцыяў вопытныя трэнеры выкарыстоўвалі інтэрактыўныя мэтады навучаньня: гульні, разборы канкрэтных жыцьцёвых сітуацыяў і няспынны дыялёг з вучнямі. На сэмінарах разглядаліся аспэкты заканадаўства, веданьне якіх мае практычную карысьць для моладзі. Зь якога ўзросту можна брацца шлюбам ці набываць алькагольныя напоі ў краме? Як правільна паводзіць сябе пры зносінах зь міліцыяй? Да якіх установаў зьвяртацца ў выпадку правапарушэньну ці злачынстваў? Усе гэтыя пытаньні абмяркоўваліся падчас навучаньня, на кожны зь іх даваліся адказы.



Трэнер Алеся Карнейчык

Але асноўны сэнс сэмінараў - не ў практычных прававых парадах. Галоўнае: выхаваньне ў сёньняшніх падлеткаў сьветапогляду жыхароў цывілізаванае эўрапейскае дзяржавы, людзей, якія ўмеюць абараняць свае правы й з павагай ставяцца да правоў іншых людзей.

Гэткія-ж сэмінары плянуецца правесьці ва ўсіх школках гораду.



20 лістапада. Сэмінар у СШ №3

## Вынікі апытаньня старшаклясьнікаў дзьвюх школаў г.Наваполацку

Сэрыі сэмінараў па школках, якую заплянавалі прадстаўнікі Праваабарончага Цэнтру "Вясна", папярэднічала даволі значная праца па вызначэньню ступені юрыдычных ведаў сёньняшніх школьнікаў і ўзроўня іхняй правасьвядомасьці. Псіхолягам Віктарам Паўловічам было распрацаванае апытаньне, якое дазваляе высьвятліць гэтыя парамэтры. Дасьледваньне праводзілася ў дзьвюх сярэдніх школах Наваполацку й дало наступныя вынікі.

**Лічуць, што Законы прымае:**
**Вярхоўны Суд - 30,4%**
**Канстытуцыйны Суд - 31,1%**
**Нацыянальны сход - 13,9%**
**Прэзыдэнт - 11,4%**

**лічуць, што чалавека павінен пазбаўляць волі толькі суд - 92,7%**

**лічуць, што грамадзкія арганізацыі павінныя й могуць абараняць іхнія правы - 22,6%**

**лічуць, што прэзыдэнт павінен абараняць іхнія правы - 2,6%**

**ня лічуць прафэсію сьледчага юрыдычнай - 73,5%**

**лічуць, што на Беларусі няма сьмяротнага пакараньня - 44,2%**

**лічуць, што лепей мець магчымасьць абараніць свае правы з дапамогай Закону - 66%**

**лічуць, што лепей мець магчымасьць абараняць свае правы з дапамогай знаёмстваў з патрэбнымі людзьмі, грошай і г.д. - 34%**

**лічуць, што на Беларусі саблюдаюцца Правы Чалавека - 29,2%**

**лічуць, што на Беларусі не саблюдаюцца Правы Чалавека - 47,5%**

Пры тэставаньні вызначаліся два парамэтры: "узровень элементарных юрыдычных ведаў" і "узровень правасьвядомасьці" (разуменьне прынцыпаў дзяржаўнае пабудовы, каштоўнасьцяў прававое дзяржавы й наяўнасьць цікавасьці да гэтых праблемаў). Па абодвух паказчыках вучні маглі набраць да 30 балаў. У выніку сярэднія лічбы па адной са школаў склалі: па узроўню элементарных юрыдычных ведаў - 11,3; па ўзроўню правасьвядомасьці - 12,6, г.зн. ніжэй за сярэднія паказчыкі.

17 кастрычніка 1999 году ў Менску прайшла самая буйная акцыя беларускіх апазыцыйных сілаў за апошні час - Марш Свабоды. Па розных падліках удзел у ёй прынялі ад 20 да 50 тысячаў чалавек. Рэзананс, які атрымала гэтая падзея ў грамадзтве, цяжка недацаніць. У той самы час інфармацыя, што падавалася афіцыйнымі беларускімі СМІ, адрознівалася ад матэрыялаў незалежнай прэсы і замежных журналістаў. Таму, напэўна, кожны жыхар нашай краіны задаваў сабе пытаньне: **"Што-ж на самой справе адбылося 17 кастрычніка ў Менску?"**

# МАРШ ЗА

## Пачатак

Фактычна, крывавыя падзеі 17 кастрычніка былі справакаваныя ўладамі. Мэр Менску Уладзімер Ярмошын забараніў правядзеньне шэсьця, дазволіўшы толькі мітынг. Мейсцам яго правядзеньня мусіла стаць плошча Бангалор, якая мала вядомая нават карэнным менчукам. Гэткім чынам апазіцыянераў адразу паспрабавалі адсунуць як мага далей ад цэнтральнай часткі гораду. Аднак кіраўнік сталічнай выканаўчай улады ня мог ня ведаць, што людзі на акцыю абавязкова прыйдуць і перадухіліць дэманстрацыю наўрадці ўдасца. Народ занадта доўга трываў зьдзекі ў свой бок, занадта доўга чакаў магчымасьці РАЗАМ выйсьці на вуліцы, заявіўшы аб сваім праве на волю і незалежнасьць. Некалькі тысячаў міліцыянтаў, АМАПаўцаў і супрацоўнікаў унутраных войскаў, якія былі падрыхтаваныя да акцыі, - лепшае сьведчаньне панічнага страху ўладаў перад уласным народам, страху здраднікаў перад адказнасьцю за свае ўчынкі.

Арганізатары Маршу Свабоды па традыцыі прызначылі мейсцам збору ўдзельнікаў акцыі плошчу Якуба Коласа. Спачатку тут было ня больш за 5-6 тысячаў чалавек. Адсюль дэманстранты накіраваліся да плошчы Бангалор. Паступова іх колькасьць павялічылася прыблізна да 20 тысячаў. Зразумела, калона мусіла выйсьці на цэнтральны менскі праспэкт Францыска Скарыны, нягледзячы на папярэджаньні з боку міліцыі.

Мінск МАРШ 17 СВАБОДЫ кастрычніка

## Акцыя

На плошчы Бангалор калона апынулася каля 14 гадзінаў. Як і планавалася, тут адбыўся мітынг. Галоўнай тэмай прамоваў выступоўцаў стала абмеркаваньне праекту саюзнай дамовы з Расеяй. Ідэя аб'яднацца з гэтай краінай відавочна не натхняла ніводнага з прысутных. Напрыканцы мітынгу праект гэты быў дэманстратыўна спалены. Тут было абвешчана, што Марш Свабоды працягнецца да плошчы Незалежнасьці. Пасярэдзіне калоны зьявіўся вязізны - 30 мэтраў даўжынёй - бел-чырвона-белы сьцяг. Людзі йшлі на галоўную плошчу краіны, каб выказаць свой пратэст супраць вяртаньня Беларусі ў Расейскую імперыю, супраць вайны й галечы. Улады, па сваёй звычцы, слухаць народ не жадалі...

Дайшоўшы па вуліцах Багдановіча й Варвашэні да праспэкту Скарыны, дэманстранты ўбачылі чырвона-белую стужку, якая перакрывала шлях на праспэкт. Арганізатары акцыі відавочна жадалі пазьбегнуць сутыкненьняў зь міліцыяй, таму, за кошт вязікіх намаганьняў, адвялі людзей ад канфліктнага мейсца. У гэты момант адбылася першая правакацыя з боку міліцыянтаў: два чалавекі, якіх потым заўважылі ў іхняй кампаніі, спрабавалі арганізаваць прарыў ланцугу АМАПаўцаў. Але кіраўнікі калёны здолелі стрымаць людзей.

Крыху пазьней адбылася чарговая правакацыя: перад шматтысячнай калёнай зьявіўся новы ўзвод АМАПу. Відаць, міліцэйскія начальнікі, якія выставілі перад натоўпам неабстраляных хлопцаў, спадзяваліся, што ня ўсе зь іх застануцца жывымі - натоўп проста затаптаў бы іх. А потым наш "усенароднаабраны" псэўдапрэзідэнт мог-бы на ўвесь сьвет распавядаць са сьлязьмі на вачах пра новыя незагойныя раны на сваім чульлівым сэрцы. Але трагедыі ўдалося пазьбегнуць, дзякуючы проста тытанічным намаганьням Мікалая Статкевіча (лідара беларускіх сацыял-дэмакратаў) і Валерыя Шчукіна (вядомага журналіста й праваабаронцы). Статкевіч спыніў маладых і гарачых хлопцаў, якім карцела "разабрацца" з нахабнымі міліцыянтамі, а Шчукін і ўвогуле выратаваў аднаго зь іх, закрыўшы сваім целам.

На масту праз Сьвіслач быў выстаўлены больш значны кардон, у некалькі шэрагаў. За імі стаяў яшчэ адзін ланцуг АМАПаўцаў, які дэманстранты бачыць не маглі. Рэзервы сканцэнтравалі ў бліжэйшых дварах і на праезжай частцы. Дэманстранты зразумелі, што далей іх ужо не прапусьцяць, калёна спынілася. Але ў той самы момант, калі Мікалай Статкевіч паспрабаваў увесьці людзей, з-за шчытоў выскачылі некалькі дзесяткаў АМАПаўцаў і пачалі зьбіваць людзей. Далей сітуацыяй кіраваць было немагчыма: дэманстрантам не заставалася нічога, акрамя як абараняцца...

## Сьвіслач - Акрэсьціна

Тое, што адбылося потым наўрадці паддаецца апісаньню. Зразумела адно: у гэты дзень беларуская міліцыя ўпісала адну з найбольш ганебных старонак у свой летапіс. Акрамя дубінак, АМАПаўцы карысталіся пэтардамі, дымавымі шашкамі ды электрашокерамі. Дэманстранты абараняліся, чым маглі. Пляцоўка каля Сьвіслачы была выкладзеная пліткай, і гэтая плітка й стала зброяй апазіцыі. І на некаторы час град камянёў, бутэлек, палак прымусіў міліцыянтаў адступіць. Але неўзабаве да мейсца сутычкі сьцягнуліся новыя сілы АМАПу, які, урэшце рэшт, перамог колькасьцю. Натоўп удалося рассячы надвая, пасьля чаго пачалася татальная зачыстка тэрыторыі. Вынікі яе сталі сапраўды жахлівымі.

Гэтыя сьведчаньні былі прадастаўленыя Праваабарончаму Цэнтру "Вясна" грамадзянамі, якія асабіста ўдзельнічалі ў падзеях 17 кастрычніка й пацярпелі ад неправамоцных дзеяньняў міліцыі. У гэтых радках няма ніводнага выдуманага слова. Кожнае са сьведчаньняў можа разглядацца як дакумент, што даказвае злачынствы ўладаў супраць свайго народу.

працяг на наступнай старонцы ⇒




*Менск. 17 кастрычніка. Марш Свабоды*

# СВАБОДАЙ

**Станіслаў Кавалёў**

17 кастрычніка я разам з усімі дэманстрантамі прайшоў увесь шлях Маршу Свабоды. У сутычках зь міліцыяй ня ўдзельнічаў. Частка дэманстрантаў пачала адыходзіць па парку ў бок мэтро... Тут мяне скруцілі й пацягнулі да машыны. Я пытаўся: "За што вы мяне затрымліваеце?" Мне адказвалі пагрозамі. Мяне павезьлі ў Савецкі РАУС г.Менску, дзе на ўсіх затрыманых склалі пратаколы. Забіралі з камэры нашу партыю прыкладна ў 2:00 - 2:30 начы 18 кастрычніка супрацоўнікі АМАПу. Пры ўваходзе ў аўтобус мяне ўдарылі, я ўпаў, пасьля мяне білі нагамі й гналі ў канец аўтобуса. Кінулі на падлогу. Я чуў, як наступныя праходзілі такую-ж "апрацоўку". Апошніх яны кідалі на тых, што ляжалі ўнізе (у тым ліку й я). Мы пачалі задыхацца ад недахопу паветра. Я чуў, як яны білі студэнта, білі гэдак па-зьверску, што нават афіцэр пачаў супакойваць сваіх падначаленых. Пасьля нас некуды павезьлі, АМАПаўцы сьмела хадзілі па галавах і целах ляжачых, калі хто-небудзь пачынаў варушыцца, білі зноў. Затым мы стаялі недзе каля 40 хвілінаў. Мне стала зусім кепска. Я пачуў, што нехта з затрыманых папрасіў дазволу падняцца, бо яго пачало ванітаваць, а нехта з АМАПаўцаў сказаў : "Хай рыгае на сваіх". Далей я кепска памятаю, бо страціў прытомнасьць... Калі нас прывезьлі, я выходзіў апошнім і ня мог стаяць на нагах, таму некалькі АМАПаўцаў трымалі мяне, а астатнія "апрацоўвалі" маё цела дубінкамі й нагамі. Затым адпусьцілі з аўтобуса й ужо на вуліцы пусьцілі праз свае шэрагі да сьцяны нейкага будынка (пасьля апынулася, што гэта быў спэцпрыёмнік-размеркавальнік на вуліцы Акрэсьціна).

Гэтую ноч кашмару я запомню на ўсё жыцьцё. Гэдак біць і маральна зьневажаць людзей маглі толькі фашысты ў канцлягерах.

**Анатоль Цурыкаў (70 гадоў, жыхар Менску)**

Я ў сутычцы ўдзелу не прымаў. Калі дэманстранты пачалі разьбягацца, я далучыўся да іх. Празь некалькі мэтраў мяне дагнаў чалавек у камуфляжнай форме й моцна ўдарыў дубінкай па галаве, а потым па сьпіне й па назе. З разьбітае галавы моцна хлынула кроў. Пасьля гэтага мяне ніхто ня біў. Некалькі жанчынаў спрабавалі мне дапамагчы, але ў іх не было бінтоў. Выклікалі "хуткую дапамогу", якая адвезла мяне ў бальніцу.

**Павал Капарыха (г.Менск)**

Падчас правядзеньня акцыі "Марш Свабоды" я быў затрыманы невядомымі асобамі ў цывільным, якія не прад'явілі ніякіх даку-ментаў. Нас (5 чалавек затрыманых) даставілі ў Савецкі РАУС г.Менску. Пасьля 4 гадзінаў утрыманьня ў РАУСе, нашу групу перавезьлі ў спэцпрыёмнік-размеркавальнік на вуліцы Акрэсь-ціна. Перад пагрузкай у аўтобус нас прагналі праз строй АМАПаўцаў, у аўтобусе нас паклалі на падлогу, падчас руху пра-цягвалі зьдзеквацца: зьбіваць, хадзіць па людзях, усяляк зьне-важаць. За спробу прыўзьняць галаву адразу білі.

**Ігар Сачанка:**

Пасьля заканчэньня Маршу Свабоды я са сваім сябрам, быў затрыманы са сваім сябрам на вуліцы асобамі ў цывільным, якія не прадстаўляліся й не паказвалі ніякіх дакументаў. Пры затрыманьні мы не аказвалі ніякага супраціўленьня, але мяне схапілі за шыю, павалілі на зямлю й прыціснулі каленам. Шыю сьціснулі так, што на пытаньне пра дакументы, я ня мог нічога адказаць, бо перацяла дыханьне. Затым маім уласным рамянём, што выцягнулі з джынсаў, завязалі мне рукі за сьпіной і адвезьлі ў Савецкі РАУС, адкуль потым перавезьлі ў спэцпрыёмнік-размеркавальнік на вуліцы Акрэсьціна.

**Уладзімер Зьвернік (г.Менск, журналіст, "Беларуская Маладзёжная")**

Зьяўляючыся пазаштатным карэспандэнтам некалькіх газэтаў, я прысутнічаў на мітынгу й шэсьці, выконваючы прафэсійныя абавязкі. У момант жорсткай сутычкі на масту праз раку Сьвіслач каля парку Горкага, калі я ўбачыў, як спэцназ і АМАП зьбіваюць падлеткаў і ведаючы, што вось-вось зьбітыя будуць кінутыя ў "варанкі", вырашыў высьветліць іхнія прозьвішчы. Пасьпеў выкрыкнуць сваё пытаньне, пачуў у адказ: "Новік Андрэй" - і стаў запісваць гэта ў свой нататнік. Але менавіта ў гэты момант да мяне падскочыў спэцназавец, садраў з майго адзеньня пасьведчаньне сябра Беларускай Асацыяцыі журналістаў, кінуў на асфальт, а іншым рухам выдраў нататнік і ручку з маіх рук. Калі я паспрабаваў нагнуцца й выратаваць сваё пасьведчаньне, бамбіза пхнуў мяне ботам, адначасова схапіўшы за каўнер курткі, і стаў піхаць да машыны. Туды "напакавалі" 38 чалавек (замест 16 па норме) і павезьлі ў РАУС Партызанскага раёну. Там нас пратрымалі прыблізна да 2-х гадзінаў начы. Увесь гэты час мы пісалі тлумачэньні, знаёміліся з пратаколамі затрыманьня, якія, дарэчы, былі напісаныя ўжо пасьля(?) нашых тлумачэньняў...

Сярод нас былі тры чалавекі, якія папалі пад "хапун" выпадкова: у момант сутычкі на масту яны выйшлі з трамваю, у якім ехалі па сваіх справах, і нават ня ведалі нічога пра акцыю апазіцыі...

Пасьля дзьвюх гадзінаў начы нас вывезьлі з памяшканьня РАУС. Тое, што адбылося, калі нас перадалі ў рукі АМАПаўцам, знаходзіцца па-за межамі чалавечай сьвядомасьці. Кожнага з нас схапілі па 2-3 бугаі, зь дзікімі крыкамі, з матам запатрабавалі нізка нахіліць галовы й закласьці рукі за галаву. Нагамі ў каваных ботах і дубінкамі пагналі нас у аўтобус, дзе, прапіхнуўшы праз увесь салён, кідалі на падлогу. Я апынуўся ўнізе. На мяне накідвалі астатніх. Потым два бугаі ўскочылі паверх - і сталі трамбаваць ботам гэтую кучу чалавечых целаў!

Шлях да Акрэсьціна расьцягнуўся на цэлы ланцуг зьдзекаў. Спачатку вырадкі ў форме пачалі пляваць на нас зьверху, а потым пачуўся кліч аднаго зь дзікуноў: "Хто хоча памачыцца, давай ім на галовы"...

Раздаліся стогны маладой жанчыны - яе клікалі Вольга (маці траіх дзяцей). Яна ўжо не магла выносіць на сабе цяжар мноства целаў і пачала задыхацца. Гэта напужала катаў, яны хуценька раскідалі тых, хто ляжаў зьверху, вызвалілі маладую жанчыну, і, адсадзіўшы асобна, пачалі здзеквацца ўжо над ёй. Зьневажалі яе самай непрыстойнай лаянкай, пагражалі згвалціць. Час ад часу нас асьвятлялі кішэнным ліхтарыкам. Раптам адзін з гэтых жывёлаў убачыў, што пад верхняй вопраткай 46-гадовага рабочага Валерыя Пражнікава цельняшка. Гэта разьюшыла АМАПаўца, і ён з дапамогай іншых дзікуноў пачаў жорстка зьбіваць Валерыя. Дарэчы, Валерый стаў першай ахвярай карнікаў: яшчэ на масту, каля парку Горкага, яго схапілі й працягнулі праз кардон шчытаносцаў, кінулі на зямлю й зьбівалі нагамі па ўсіх частках цела. Яшчэ быў малады хлопец гадоў 23-25 - Міраслаў Лазоўскі. Ён быў зьбіты да страты прытомнасьці. На ягонай галаве ўтварылася вялікая дзірка, пад вокам - вялізны сіняк. Яго адразу на машыне хуткай дапамогі адвезьлі адвезьлі ў бальніцу, дзе на галаву наклалі швы. А потым зноў далучылі да нас.

З Акрэсьціна АМАПаўцы паехалі за іншай групай затрыманых. Па словах апошніх, зьверствы зьдзяйсьняліся й над імі. Усё паўтарылася зноў, але з той розьніцай, што ўнізе два хлопцы ледзь не задыхнуліся. Калі іх выцягнулі адтуль, прыйшлося рабіць штучнае дыханьне...



*Менск, 17 кастрычніка. Марш Свабоды*

*Іншая інфармацыя аб Маршы Свабоды - на наступнай старонцы ⇒*

Працяг са старонак 4-5

# МАРШ ЗА СВАБОДАЙ

## Пасьля

У сутычках з дэманстрантамі атрымалі пашкоджаньні 56 міліцыянтаў. Каля 100 удзельнікаў шэсьця зьвярнулася па медыцынскую дапамогу. Больш за 200 чалавек былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі. Узбуджана больш за 60 адміністратыўных справаў. У дачыненьні пяцёх удзельнікаў Маршу Свабоды ўзбуджаныя крымінальныя справы. У іх ліку - арганізатары шэсьця Мікалай Статкевіч (лідар беларускіх сацыял-дэмакратаў) і Валеры Шчукін. Іх абвінавачваюць у арганізацыі й удзеле ў масавых беспарадках, што пагражае 3 гадамі турмы. Мікалай Статкевіч, знаходзячыся ў сьледчым ізалятары, 18 кастрычніка распачаў галадоўку ў знак пратэсту супраць дзеяньняў уладаў і міліцыі падчас і пасьля Маршу Свабоды. Па 15 сутак арышту атрымалі адзін зь лідараў Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і актывіст "Маладога Фронту" Яўген Афнагель.

Праваабарончая арганізацыя Amnesty International абвесьціла ўсіх затрыманых падчас акцыі Марш Свабоды Вязьнямі сумленьня. У заяве праваабаронцаў гаворыцца, што Amnesty International не апраўдвае гвалтоўныя мэтады барацьбы, аднак, на іх думку, **удзельнікі акцыі 17 кастрычніка былі арыштаваныя за законнае карыстаньне правам на свабоду сходаў і мірных шэсьцяў.** Гэтая міжнародная арганізацыя выступіла з патрабаваньнем да беларускіх уладаў аб неадкладным вызваленьні ўсіх затрыманых і пачатку следзтва па выпадках жорсткага стаўленьня да грамадзянаў супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных справаў.

З заявай выступіла Міжнародная Ліга правоў чалавека. Гэтая арганізацыя заклікае беларускія ўлады вызваліць усіх затрыманых за ўдзел у мірнай акцыі Марш Свабоды, якіх разглядае як **палітычных зьняволеных**.

Дзяржлэпартамэнт ЗША зрабіў 18 кастрычніка заяву "Беларусь: разгон уладамі мірнага шэсьця", у якім гаворыцца: "Сабраўшы больш за 20 тысячаў беларусаў усіх узростаў, Марш зьявіўся буйнейшай маніфэстацыяй у Менску за апошнія тры гады. Урад ЗША патрабуе ад Беларусі **выкананьня сваіх міжнародных абавязацельстваў** і правядзеньня сьледзтва па дзеяньнях сілаў бясьпекі ўчора ўвечары. Мы таксама заклікаем да неадкладнага вызваленьня ўсіх, хто быў затрыманы па палітычных матывах, улучна з Мікалаем Статкевічам."

20 кастрычніка менчанка Вера Церлюкевіч зьвярнулася ў суд Першамайскага раёну сталіцы Беларусі з зыскам да Нацыянальнае тэлерадыёкампаніі РБ і непасрэдна да вядучага тэлепраграмы "Рэзананс" А.Зімоўскага. В.Церлюкевіч прымала ўдзел у Маршы Свабоды й таму палічыла абразай словы А.Зімоўскага, які назваў удзельнікаў шэсьця "кучай адмарозкаў". Свае маральныя страты ад зьвестак, якія "ганьбяць гонар і годнасьць", Вера Церлюкевіч ацаніла ў 3 мільярды рублёў.



Менск. 17 кастрычніка. Марш Свабоды




⇒ працяг са старонкі 1

Сустрэчы, на якіх людзі мусілі выказваць свае думкі наконт праекту дамовы аб стварэньні саюзнай дзяржавы, часам ператвараліся ў лекцыі. Прысутных аглядна знаёмілі з гісторыяй інтэграцыі "брацкіх" народаў, а потым рабілася паведамленьне па асноўных пунктах праекту. І толькі пасьля гэтага пачыналася сапраўднае абмеркаваньне. Высьветлілася, што сёньняшніх жыхароў Беларусі сапраўды клапоціць лёс іхняй краіны. Толькі ў Наваполацку падчас сустрэчаў у працоўных калектывах гораду было выказана болей за 100 прапановаў і ўдакладненьняў да дакумента. Амаль на кожным прадпрыемстве, у кожнай арганізацыі гучала галоўная прапанова: правесьці агульнарэспубліканскі рэферэндум, каб вызначыць, ці падтрымліваюць сёньняшнія грамадзяне нашай краіны ідэю аб'яднаньня з Расейскай Федэрацыяй. Паўсюдна ставілася пытаньне: ці паедуць у выпадку ўтварэньня саюзнай дзяржавы беларускія салдаты ў гарачыя кропкі неспакойнай краіны-суседкі. І галоўнае - людзі ня бачылі ў праекце канкрэтыкі. Нават прыхільнікі аб'яднаньня з Расеяй адзначалі, што ў дакуменце зашмат агульных словаў, за якімі не праглядаецца пэўных справаў.

Аднак Аляксандар Лукашэнка ў чарговы раз вырашыў узяць ініцыятыву на сябе й паставіць свой подпіс пад дамовай, якая можа стаць сьмяротным прысудам Беларусі. Ён забыўся, што "Рэспубліка Беларусь - унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава" (Артыкул 1 Канстытуцыі РБ), а яе прэзыдэнт "прымае меры па ахове суверынітэту Рэспублікі Беларусь, яе нацыянальнай бясьпекі" (Артыкул 79 Канстытуцыі РБ). Забыўся ён (ці проста не захацеў узгадаць?) і на вялікую частку грамадзянаў сваёй краіны, якія ня хочуць аб'яднаньня з Расеяй. Праект дамовы, апублікаваны 8 кастрычніка пачынаецца словамі аб "паймкненьні народаў Беларусі й Расеі да адзінства". Людзі, якія не спужаліся міліцэйскіх дубінкаў 17 кастрычніка падчас Маршу Свабоды; людзі, якія выходзяць на вуліцы беларускіх гарадоў, каб выказаць свой пратэст супраць зацягваньня сваёй Радзімы ў Расейскую імпэрыю - найлепшы доказ таго, што гэтая тэза ня мае пад сабой ніякага грунту, акрамя папулізму.

Даволі цяжка бязь сьмеху ўспрымаць зьбітую фразу аб "брацкасьці" народаў дзьвюх дзяржаваў, якая паўтараецца й у праекце саюзнае дамовы. На падставе чаго братамі беларусаў абвяшчаюцца якуты, татары, інгушы, эвенкі, мардва ці прадстаўнікі дзесяткаў іншых народаў шматнацыянальнае Расеі?

Незразумелымі ёсьць словы з Артыкулу 17 праекту: аб "сумеснай абарончай палітыцы", "сумесным выкарыстаньні ваеннае інфраструктуры й прыняцьці іншых мераў дзеля падтрымкі абароназдольнасьці Саюзнай дзяржавы". Пад гэтыя "іншыя меры" выдатна падыходзіць, напрыклад, дасылка беларускіх вайскоўцаў у Чачэнію, дзе, дарэчы, расейскімі войскамі ўжо выкарыстоўваецца беларуская вайсковая тэхніка.

Расею ліхаманіць ад грамадзянскае вайны й глыбокага эканамічнага крызісу, выйсьця зь якога ня бачна нават у далёкай пэрспэктыве. Але цяперашняе кіраўніцтва нашай краіны, апантанае настальгіяй па СССР, сур'ёзна настроенае падпісаць саюзную дамову. Толькі ці вартае далучэньне Беларусі да імперыі, якая дажывае апошнія часы, самага каштоўнага, што можа мець народ, - сваёй дзяржаўнасьці, свабоды й незалежнасьці?

Юрыдычная кансультацыя

# АДМІНІСТРАТЫЎНАЕ ПРАВАПАРУШЭНЬНЕ

## Што такое "адміністратыўнае правапарушэньне"?

Адміністратыўным правапарушэньнем лічыцца супрацьпраўнае наўмыснае ці неасьцярожнае дзеяньне альбо бяздзеяньне, якое ставіць пад пагрозу дзяржаўны ці грамадзкі парадак, усе віды уласнасьці, правы й свабоды грамадзянаў, усталяваны парадак кіраваньня. Існуе некалькі неабходных умоваў для азначэньня адміністратыўнага правапарушэньня.

**Па-першае:** павінна быць зьдзейсьнена адно з правапарушэньняў, што прадугледжаны Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных правапарушэньнях (КаАП).

**Па-другое:** парушальнік павінен усьведамляць, што ён робіць, жадаць зьдзяйсьненьня гэтага ці сьвядома дапускаць наступствы сваіх дзеяньняў.

**Па-трэцяе:** гэтай асобе павінна быць ня меней за 16 гадоў.

## Кім можа праводзіцца адміністратыўнае затрыманьне?

Адміністратыўнае затрыманьне можа праводзіцца ТОЛЬКІ дзяржаўнымі ворганамі, якія маюць на гэта паўнамоцтвы па закону. У іх лік уваходзіць міліцыя, пагранічныя войскі, ваенізаваная ахова, вайсковая аўтамабільная інспэкцыя, мытня.




## За што можа затрымаць міліцыя?



У асноўным затрыманьні за адміністратыўныя правапарушэньні праводзіць <u>міліцыя</u>. Прадстаўнікі гэтага воргану маюць права затрымаць грамадзяніна ў некалькіх выпадках. Адна з найбольш распаўсюджаных прычынаў для адміністратыўнага затрыманьня - **дробнае хуліганства** (артыкул 156 КаАП). У Наваполацку штомесяц за гэта затрымліваецца больш за 100 чалавек (гэта значыць 3-4 кожны дзень). Пад дробным хуліганствам разумеецца нецэнзурная лаянка ў грамадзкіх мейсцах, прыставаньні да іншых грамадзянаў ды дзеяньні, які парушаюць грамадзкі парадак і спакой грамадзянаў. У якасьці пакараньня за гэтыя дзеяньні на хулігана можа быць накладзены штраф у памеры да 2 мінімальных заробкаў (зараз гэта 2 мільёны 900 тысячаў рублёў) ці выпраўчыя работы тэрмінам 1-2 месяцы з утрыманьнем 20% заробку. Праўда, за дробнае хуліганства можна атрымаць і адміністратыўны арышт да 15 сутак.

Таксама не зьяўляецца рэдкасьцю прыцягненьне да адміністратыўнай адказнасьці за **распіцьцё сьпіртных напояў ці зьяўленьне ў нецьвярозым стане ў грамадзкіх мейсцах** (артыкул 159 КаАП). Праблема з гэтым артыкулам КаАП у тым, што фактычна любое мейсца - прынамсі ў нашым горадзе - можна назваць грамадзкім. Так што пакланяцца Бахусу лепей ці ва ўласнае кватэры, ці ў рэстарацыі (але дадому вяртацца, зразумела, трэба асьцярожна ды стараючыся не трапляцца на вочы міліцыянтам - бо шлях дамоў абавязкова будзе пралягаць па "грамадзкіх мейсцах"). Тым-жа, хто не пазьбег сустрэчы з супрацоўнікамі міліцыі, знаходзячыся "пад мухай", трэба ведаць, што іх чакае: у лепшым выпадку - папярэджаньне, у горшым - штраф памерам 1 мінімальны заробак. Калі-ж вы - трывалы прыхільнік моцных напояў і ўжо напрацягу году мелі з-за гэтага непрыемнасьці зь міліцыяй, вас чакае штраф удвая большы. Ня трэба забываць, што грамадзянін, які перастараўся з куляньнем чарак, можа трапіць і ў медвыцьвярэзьнік. Толькі за мінулы месяц 228 навапалачанаў скарысталіся паслугамі гэтай установы, за якія, дарэчы, таксама трэба выкласьці 1 мільён 450 тысячаў рублёў з уласнае кішэні.

Затрыманьне можа адбыцца й **пры злосным непадпарадкаваньні <u>законным</u> патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі ці народных дружыньнікаў** (артыкул 166 КаАП). Тут таксама можа ўзьнікнуць праблема: даказаць, што патрабаваньні міліцыянта былі незаконнымі даволі праблематычна - вядома, калі ён не загадвае вам нешта сапраўды надзвычайнае (напрыклад, таньчыць гапак на вуліцы ці крычаць "Я люблю прэзыдэнта!"). Звычайна, калі грамадзяніну інкрымінуецца менавіта гэты пункт Кодэксу, супрацоўнікі міліцыі маюць пэўныя доказы сапраўды *злоснага* непадпарадкаваньня сапраўды *законным* сваім патрабаваньням. Вынікам можа стаць штраф ад 5 да 10 м.з. Ці нават арышт на тыя самыя 15 сутак.



Апошнім часам у нашай краіне даволі часта затрымліваюць грамадзянаў за **незаконныя валютныя апэрацыі**. А паколькі даляры ды дойчмаркі сёньня можна знайсьці толькі ў вулічных мянялаў, фактычна любыя "валютныя апэрацыі" звычайнага грамадзяніна нашай слаўнай РБ (якія, звычайна, не перавышаюць набыцьцё ды продаж "баксаў") аўтаматычна падпадаюць пад артыкул 151-1 КаАП. Так што набыцьцё зялёных паперак з партрэтамі амэрыканскіх прэзыдэнтаў - справа небясьпечная й супрацьзаконная. Караецца гэткае правапарушэньне вельмі жорстка: штраф ад 20 да 50 мінімальных заробкаў і канфіскацыя валюты, зь якой праводзілася незаконная апэрацыя.

Адміністратыўным правапарушэньнем лічуцца й **парушэньні ўсім вядомых правілаў дарожнага руху.** Затрыманьні па гэтых артыкулах КаАП дакладна нельга назваць рэдкасьцю - за гэты год у Наваполацку гэткіх правапарушэньняў зафіксавана больш за 15 тысячаў (гэта значыць, прыблізна кожны сёмы навапалачанін адзначыўся як адміністратыўны правапарушальнік).

Даволі папулярным артыкулам КаАП, згодна зь якім грамадзянін можа быць затрыманы, у сёньняшняй Беларусі ёсьць **парушэньне парадку арганізацыі й правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацыяў** (артыкул 167-1 КаАП). Відавочна, што адзінае прызначэньне гэтага пункту - змаганьне з апазіцыяй. Прычым змаганьне йдзе чыста эканамічным шляхам: артыкул прадугледжвае пакараньне да 150 мінімальных заробкаў (больш за 200 мільёнаў рублёў ці 310 даляраў па "чорнаму" курсу), а пры паўторным парушэньні напрацягу году - да 300 мінімальных заробкаў (памножце ўсе лічбы на 2).

Ворганы ўнутраных справаў маюць таксама права праводзіць затрыманьне за **незаконны продаж тавараў і іншых прадметаў** (артыкулы 144-148 КаАП), **у выпадках, калі ёсьць падставы меркаваць, што асоба займаецца прастытуцыяй** (артыкул 162-1 КаАП), за **парушэньні правілаў паляваньня й рыбалоўства** і інш.

Але любое адміністратыўнае затрыманьне мае свой парадак, гэта значыць існуюць пэўныя правілы, што павінны быць выкананыя.

працяг на наступнай старонцы ⇒

## Які парадак і тэрміны адміністратыўнага затрыманьня?

Аб кожным выпадку адміністратыўнага затрыманьня павінен **складацца пратакол** - ці на мейсцы затрыманьня, ці ў міліцыі, ці ў іншым памяшканьні, куды дастаўляецца затрыманы. У пратаколе пазначаецца дата й мейсца складаньня, час і мейсца затрыманьня, прозьвішча, імя і імя па бацьку асобы, што складае пратакол (звычайна гэта афіцэры міліцыі ці малодшыя начальнікі патрульна-паставой службы). Запісваюцца таксама зьвесткі аб затрыманым: ягонае прозьвіш-ча, імя, імя па бацьку, дата нараджэньня, адрэса, мейсца працы альбо вучобы. Прычым **затрыманы можа адмовіцца ад падпісаньня пратаколу**, што па Закону ня можа мець нейкіх наступстваў. Аб гэтым павінен быць зроблены запіс. Затрыманы таксама мае права занатаваць у пратаколе сваё стаўленьне да самога факту затрыманьня.

Па просьбе затрыманага ягоным сваякам ці адміністрацыі па мейсцу працы ці вучобы **паведамляецца** аб тым, дзе ён знаходзіцца і за што. Аб затрыманьні **непаўнагадовага** супрацоўнікі міліцыі **абавязкова павінны паведаміць ягоным бацькам** - жадае гэтага затрыманы ці не.

Супрацоўнікі міліцыі маюць права правесьці **асабісты дагляд** затрыманага, але яго мусіць зьдзяйсьняць **асоба таго-ж полу**, што й затрыманы, і ў прысутнасьці двух панятых таго-ж полу (за выключэньнем выпадкаў, калі прысутнасьць панятых ёсьць немагчымай). Пры гэтым рэчы альбо дакументы, што зьяўляюцца непасрэднымі аб'ектамі правапарушэньня, вымаюцца. Аб усім гэтым, вядома, робяцца запісы ў пратаколе затрыманьня.

Затрыманьне асобы, што зьдзейсьніла адміністратыўнае правапарушэньне, можа доўжыцца **ня болей за 3 гадзіны** й лічыцца з моманту ягонае дастаўкі ў міліцыю. Але грамадзяне, што затрыманыя за дробнае хуліганства, а таксама парушэньне парадку арганізацыі й правядзеньня сходаў, мітынгаў і г.д., могуць быць затрыманыя на большы тэрмін, менавіта - да разгляду справу суддзёй ці начальнікам (намесьнікам начальніка) аддзелу ўнутраных справаў. Але па Закону міліцыя павінна вызваліць затрыманага, калі ягоная асоба й мейсца жыхарства ўжо высьветленыя ці ёсьць пэўныя абставіны, што заслугоўваюць увагі (напрыклад, дома пакінутыя без нагляду непаўнагадовыя дзеці, хворыя й г.д.). Да таго-ж, затрыманы мае магчымасьць зьвярнуцца да начальніка аддзелу ці ягонага намесьніку з просьбай вызваліць яго пад пісьмовае абавязацельства зьявіцца на разгляд справы ў суд альбо аддзел унутраных справаў у пазначаны час.

# АДМІНІСТРАТЫЎНАЕ ПРАВАПАРУШЭНЬНЕ

Калі высьвятляецца факт сапраўднага зьдзяйсьненьня затрыманым правапарушэньня складаецца яшчэ адзін пратакол: **пратакол аб адміністратыўным правапарушэньні**. У гэтым дакуменьце, што запаўняецца на спэцыяльных бланках, пазначаюцца зьвесткі аб асобе, якая складае пратакол, і аб затрыманым, мейсца, час і сутнасьць правапарушэньня. Таксама ў пратаколе робіцца спасылка на нарматыўны акт, які прадугледжвае адказнасьць за гэткае правапарушэньне, падаюцца зьвесткі пра сьведкаў (вядома, калі яны ёсьць) і тлумачэньні правапарушальніка. Ён, дарэчы, як і ў выпадку з пратаколам затрыманьня, можа не падпісваць гэтую паперу, аб чым робіцца запіс у пратаколе.

І самае галоўнае. Чалавек, якога затрымалі за адміністратыўнае правапарушэньне, мае шэраг правоў. Папершае - **ведаць, хто яго затрымлівае.** Калі пры затрыманьні супрацоўнік міліцыі не прадставіўся (гэта значыць не назваў свайго прозьвішча й службовай пасады ці званьня), ігнараваньне ягоных патрабаваньняў і нават супраціў не зьяўляюцца правапарушэньнем.

Па-другое, затрыманы мае права **ведаць, за што яго затрымліваюць.** Як ужо было пазначана вышэй, ён таксама можа **адмовіцца ад падпісаньня пратакола аб адміністратыўным затрыманьні** (аб чым робіцца запіс у пратаколе). Затрыманы мае права **патрабаваць неадкладнага інфармаваньня сваіх сваякоў ці адміністрацыі па мейсцу працы ці вучобы аб сваім мейсцазнаходжаньні й ягоных прычынах.** І вядома, ён можа падаваць **скаргі пракурору альбо вышэйшаму начальніку аб незаконным затрыманьні.**

## Якія правы мае затрыманы?

Дадатковыя правы затрыманы атрымлівае пасьля складаньня пратаколу аб адміністратыўным правапарушэньні. Ён мае права:

-- *даваці ці не даваць тлумачэньні наконт дзеяньняў, якія ставяцца яму ў віну;*

-- *адмовіцца падпісваць пратакол і выкласьці прычыну адмовы;*

-- *рабіць заўвагі па зьместу пратаколу;*

-- *прадастаўляць доказы;*

-- *выступаць на роднай мове й карыстацца паслугамі перакладчыка, калі не валодае мовай, на якой вядзецца справа;*

-- *накіроўваць скаргі органу (службовай асобе), што стаіць вышэй, аб ужываньні недазволеных мэтадаў пры атрыманьні ягоных тлумачэньняў, парушэньні ўмоваў затрыманьня ці любых іншых парушэньнях.*

Трэба адзначыць, што заканадаўства Рэспублікі Беларусь разыходзіцца з міжнароднымі прававымі стандартамі. У 1988 годзе Генэральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў зацьвердзіла прынцыпы абароны ўсіх затрыманых асобаў. Згодна з гэтымі прынцыпамі кожнаму чалавеку на пачатку затрыманьня тлумачацца ягоныя правы. Кожны затрыманы мае права на юрыдычную дапамогу адваката, зь якім ён можа кансультавацца неадкладна пасьля затрыманьня, прычым канфідэнцыйна. Ён мае права на перапіску з роднымі й нават на тое, каб яны яго наведвалі. Затрыманы й ягоны адвакат маюць права ў любы момант узбудзіць разбірацельства перад судовым ці іншым органам дзеля аспрэчваньня законнасьці затрыманьня.

На жаль, беларускае заканадаўства не забясьпечвае сваім грамадзянам элементарных (з пункту гледжаньня міжнародных стандартаў) правоў пры адміністратыўным затрыманьні. Яно нават не прадугледжвае права затрыманага карыстацца паслугамі адваката да разгляду справы ў судзе.

**Шаноўныя чытачы!**
**Калі вас цікавіць пэўнае юрыдычнае пытаньне, аб якім вы хацелі-б прачытаць у "Юрыдычнай кансультацыі" нашага бюлетэню - дасылайце вашы прапановы ўрадакцыю**